




# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 39 (294) | ГОД VII | 30 ВЕРАСНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР


Да I канферэнцыі БГКТ у Дуброве

## ВЫРАШАЕ ШЫРОКІ АКТЫЎ

Насельніцтва Дуброўскага павета, даволі разнастайнае ў сваім нацыянальным складзе, любіць беларускую песню, музыку, танец, паэтычнае слова. Асабліва відаць гэта ў час выступленняў эстраднага калектыва «Лявоніха». Тут заўсёды залы перапоўнены людзьмі. Нічога ў гэтым дзіўнага: жыхары павета паслугоўваюцца ў штодзённым жыцці беларускай мовай, або дасканала яе разумеюць, але рэдка маюць магчымасць бачыць мастацкія калектывы з беларускім рэпертуарам.

Ад пачатку ўзнікнення БГКТ Дуброўскі павет заўсёды спалучаўся ва ўсіх мерапрыемствах арганізацыйнага характару з суседнім Сакольскім паветам, у якім існавала праўленне аддзела БГКТ. Такое спалучэнне, не гледзячы на шчырыя намеры сакольскіх сяброў, давала слабыя вынікі. Тут слабей абслугоўваліся вёскі, менш арганізавалася культурна - асветных мерапрыемстваў.

Таму многія члены БГКТ маладога Дуброўскага павета пачалі ставіць перад Галоўным Праўленнем пытанне аб арганізаванні аддзела ў Дуброве. Майскі чацвёрты Пленум ГП разгледзеў гэту просьбу і прыняў пастанову стварыць праўленне аддзела. У тым часе ў Дуброве дзейнічаў арганізацыйны камітэт БГКТ на чале з тав. I. Кіндзюком. Камітэт гэты правёў некаторыя арганізацыйныя мерапрыемствы. Да верасня ўзніклі чатыры новыя гурткі БГКТ, некалькі знаходзілася ў стадыі арганізацыі. Агульная колькасць членаў БГКТ павялічылася да 105 чалавек.

Нядаўна адбылося ў Дуброве супольнае пасяджэнне аргкамітэта і кіраўніцтва ГП, на якім было вырашана склікаць на дзень 30 верасня г. г. у Дуброве павятовую канферэнцыю.

Асаблівай ўвагі заслугоўвае факт вельмі шчырага прыняцця пачынанняў БГКТ і аказання дапамогі мясцовымі грамадска - палітычнымі і адміністрацыйнымі ўстановамі. Усе яны імкнуцца разбудзіць культурна - асветны рух у павеце. Тут усё яшчэ толькі пачынае арганізоўвацца. Малая колькасць святліц ў павеце, слаба развіты мастацкі рух, чытальніцтва — усё гэта патрабуе дапамогі.

Сцверджана, напрыклад, што ў павеце амаль зусім няма беларускіх кніжак. На ўвесь павет выпісваецца толькі некалькі нумараў газеты «Ніва». Як аказалася на месцы, асноўнай прычынай гэтага з'яўляецца слабая папулярызацыя чытальніцтва на беларускай мове. Гутарым з жыхарам у вёсцы Ячна: «...Гаварыць — дык мы ўсе гаворым па-беларуску, але чытаць амаль не ўмеем. Ніхто нас не вучыў». У вёсцы Грабялі першыя завезеныя актывам беларускія кніжкі ўжо прачытаны, і моладзь дапамінаецца іх змяніць. «Хочам арганізаваць святліцу, каб там мець кніжкі, газеты, часопісы. А можа вы да нас прыедзеце з дакладам або мастацкім калектывам?» Так, патрэбы ёсць. I ўзніклі яны стыхійна. Сапраўды, жыхароў Дуброўшчыны ніхто ніколі не вучыў чытаць па-беларуску. Калі ў іншых паветах дзесяткі год вядуцца лекцыі беларускай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах, дык у Дуброўскім павеце няма ніводнай школы з беларускай мовай навучання або з беларускай мовай як прадмет. Асабліва апошні тып школ павінен мець тут папулярнасць.

Стварэнне Праўлення Аддзела БГКТ зможа аказаць дадатнае ўздзеянне на вырашэнне шматлікіх праблем Дуброўскага павета.

УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК
Сакратар ГП БГКТ

## 900 ГОД БЕЛЬСКА




МІТЫНГ. Фота Г. Рагазінскі

(Фотарэпартаж глядзіце на стар. 3)

МАКСІМ ТАНК

### Я даўно дараваў

I даўно дараваў свае крыўды рацэ,
Што ў дарозе мяне напаіць не хацела,
Дрэву, што адпачыць не пазычыла цень,
Вогнішчу, што ў завею мяне не сагрэла,

Нават — кулі, якая хацела дастаць
Маё сэрца пад потнай кашуляй салдата...
Толькі ўсё я табе не магу дараваць,
Што мяне пачакаць лішні дзень не змагла ты.

ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ

## ДУБРОЎШЧЫНА

Дуброўшчына — адзін з наймалодшых паветаў Беласточчыны. Утвораны ён у 1954 годзе. Умовы гаспадарчага развіцця павета не былі найлепшыя. Павет, які аддалены ад большых гарадоў ды яшчэ пры адсутнасці якой - небудзь прамысловасці, чыгункі і добрых дарог, сапраўды не мог прадстаўляць вялікіх перспектыў развіцця.

Дуброўшчына — павет тыпова сельскагаспадарчы. I хоць у асноўным глеба тут няважная, у пераважнай большасці пяскі ды яшчэ з валунамі, а ўсё ж такі сельская гаспадарка з пакон вякоў была асноўнай крыніцай ўтрымання насельніцтва Дуброўшчыны. Так яна і надалей застаецца.

Дуброўшчына — павет невялікі. Тут 62.990 гектараў зямельных угоддзяў, на якіх паасобна гаспадарыць 6.797 сялянскіх сем'яў.

З гэтым гаспадараваннем не заўсёды было найлепш на Дуброўшчыне. Напрыклад, яшчэ 10 гадоў таму назад амаль ніхто тут не карыстаўся мінеральнымі ўгнаеннямі. А зямля ж слабенькая. Нічога дзіўнага, што ўраджаі 4-ох асноўных збожжавых культур тут ніколі не перавышалі 8—10 цэнтнераў з гектара. Такіх сельскагаспадарчых раслін, як цукровыя буракі ці кукуруза, у той час на Дуброўшчыне ніхто і не думаў вырошчваць ды і наогул мала тут хто аб іх чуў.

### СЕЛЬГАСГУРТКІ — МАСАВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ СЯЛЯН.

У сельскай гаспадарцы Дуброўшчыны карэнныя змены пачалі заходзіць некалькі год таму назад, калі ў краіне быў створаны фонд развіцця сельскай гаспадаркі і пачалася арганізацыя ў вёсках сельскагаспадарчых гурткоў.

Сялянская недаверлівасць да ўсяго новага, мабыць, найбольш тады выявілася сярод насельніцтва Дуброўшчыны. Не лёгка было мясцовым актывістам выясніць насельніцтву, што такое фонд развіцця сельскай гаспадаркі і якія перспектывы адкрывае арганізацыя сельгасгуртка.

Неахвотна ўспамінаюць той перыяд дуброўскія актывісты. Ім неаднойчы даводзілася далёка за поўнач сядзець на сялянскіх сходах і пераконваць. Зрэшты, у той час яны яшчэ і самі не мелі поўнай яснасці адносна сельгасгурткоў і іх мэтанакіраванасці. Але гэта ўжо час мінулы. Сельскагаспадарчыя гурткі заваявалі давер насельніцтва Дуброўшчыны і зараз становяцца тут сапраўды масавай сялянскай арганізацыяй. А вось некалькі дадзеных. Зараз на Дуброўшчыне дзейнічае 61 сельскагаспадарчых гурткоў, якія налічваюць 1258 членаў. Іначш кажучы, на Дуброўшчыне ў кожнай другой вёсцы існуе сельгасгурток. А калі ўзяць пад увагу, што членам гуртка практычна з'яўляецца галава сям'і — гаспадар, дык да сельгасгуртка на Дуброўшчыне належыць кожная 6-тая сям'я. Да перадавых раёнаў Дуброўшчыны, калі мова ідзе аб развіцці сельгасгурткоў, належаць: ГРН —Звярынец (на стан 11 вёсак у 8 існуюць сельгасгурткі), ГРН — Ружаны Сток (на 5 у 4-ох) і Новы Двор — (на 12 у 7-мі).

### РАНГ СЕЛЬГАСАСВЕТЫ

Члены сельскагаспадарчых гурткоў на Дуброўшчыне, зрэшты, як і ўсюды, з'яўляюцца найбольш прагрэсіўнай сілай у прымяненні навейшых метадаў апрацоўкі зямлі. Але, каб умець прымяняць гэтыя навейшыя метады, трэба вучыцца. На тэрыторыі Дуброўшчыны за апошнія гады арганізавана густая сетка ўсялякіх лектаратаў, курсаў і вечаровых сельскагаспадарчых школ..

Усялякія метады сельскагаспадарчай асветы найлепш успрымаюцца там, дзе існуе сельгасгурток. У 76 мясцовасцях тут пастаянна праводзіцца сельскагаспадарчая самаадукацыя.

З мэтай падрыхтоўкі моладзі да прафесіі земляроба арганізуюцца ў павеце пазашкольныя калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Да гэтага года існавала ў павеце 24 такія калектывы, а сёлета восенню будзе арганізавана яшчэ 16. Вельмі цікавым метадам працы гэтых калектываў з'яўляюцца доследныя ўчасткі. Умеласць вырошчвання паасобных раслін на малых загончыках яны пераносяць на бацькоўскія гаспадаркі. Сёння моладзі Дуброўшчыны ўжо

(Працяг на стар. 4)

# ПАД УЛАДАЙ ГЕНЕРАЛАЎ

У бягучым годзе ў Аргентыне мела месца ўжо адзінаццаць урадавых крызісаў. Галоўнай прычынай цяперашніх, як і папярэдніх хваляванняў, з'яўляецца армія, якая адыгрывае найважнейшую, рашаючую ролю ў гэтай краіне. Напрыклад, выкліканы арміяй апошні крызіс ад 18 верасня г.г. закончыўся поўнай перамогай так званых «легалістаў», якім падпарадкоўваўся прэзідэнт Гуіда. У выніку тыднёвых баёў паміж трыма рознымі вайсковымі групіроўкамі забіта 120 салдат і цывільных, а таксама разбурана шмат будынкаў у сталіцы Аргентыны горадзе Буэнас - Айрэс.

Аднак ніякіх істотных палітычных змен пасля апошніх аргентынскіх падзей чакаць нельга. Барацьба паміж вайсковымі групіроўкамі з'яўляецца нічым іншым як толькі адлюстраваннем закуліснай ігры розных груп капітала. Кожная з іх намагаецца дабіцца кіруючай ролі ў гаспадарчым жыцці краіны, каб такім чынам аказваць свой уплыў на ўрад. Трэба лічыць гэта як тыповую з'яву для краіны, якая ўваходзіць у перыяд развіцця свайго нацыянальнага капіталізма. Змаганне за ўладу ў Аргентыне толькі таму праходзіць у такіх вострых формах, што за плячыма паасобных капіталістычных групіровак стаяць багатыя генералы са шматлікімі атрадамі войск.

Генерал Хуан Анганіё, які перамог ў апошнім пераваpоце, з'яўляецца правадыром «легалістаў». Арыштаваў ён дагэтуляшняга міністра вайны Карусія Саравіё і сам заняў яго месца. Такі выпадак у Аргентыне лічыцца цалкам нармальным. А калі б успомнены пераварот не ўдаўся, у турму пасадзілі б Анганія — зрэшты, на кароткі час.

Што ўяўляюць сабою «легалісты»? Агульна разважаючы, з'яўляюцца яны прадстаўнікамі нацыянальнай буржуазіі, якая не выказвае схільнасцей да цеснага супрацоўніцтва з Вашынгтонам. Таму менавіта ЗША не надта задаволены гэтым пераваротам. Несумненна, жадалі б бачыць у якасці пераможцы генерала Карласа Таранца Мантэра, які знаходзіцца са сваім войскам на поўначы краіны. Іменна Мантэру лічаць абаронцам інтарэсаў той часткі буржуазіі, якая безагаворачна падпарадкоўваецца Вашынгтону. Сёлета Мантэра арганізаваў серыю пераваротаў і садзейнічаў зняволенню былога прэзідэнта Аргентыны Франдзізі.

У час апошняга перавароту. аднак, Мантэра спазніўся, не паспеў разгарнуць усіх сваіх сіл. Уладу заваявала нацыянальная буржуазія, што сведчыць аб яе росце. Зразумела, трэба спадзявацца новых спроб пераваротаў з боку прыхільнікаў Вашынгтона або дробнай буржуазіі, якая застаецца лаяльнай да ўраду.

У сувязі з апошнімі падзеямі ў Аргентыне варта ў некалькіх словах ахарактарызаваць яе армію.

Аргентына мае найбольш у свеце генералаў. Іх сярэднія месячныя заробкі, апрача ўсякіх дадаткаў, даходзяць да 70—80 тыс. песас, у той час, калі заробак рабочага не большы 6 тыс. песас. Апрача міністэрства вайсковых спраў у Аргентыне ўтвораны самастойныя міністэрствы арміі, флоту, авіяцыі і генеральны штаб. Усюды поўна генералаў, сярод якіх многія зарабляюць нават да 300 тыс. песас. Кошты коштамі наганяюць! Нічога тады дзіўнага, што Аргентына выдаткоўвае на войска ў год звыш 66 працэнтаў свайго бюджэту.

Як прыклад суадносін, існуючых у аргентынскай арміі, можа паслужыць факт з папярэдняга перавароту генерала Мантэра.

Калі назначаны генералам Мантэрам новы начальнік штаба генерал Турола прыбыў у штаб, афіцэры не ўсталі нават са сваіх месц, каб прывітаць яго. Разгневаны генерал запатрабаваў тлумачэнняў, тады адзін з маладых паручнікаў адказаў:

— Для мяне вы — рэвалюцыянер, не прызнаю вас!

— Ці і рэшта паноў афіцэраў лічыць мяне рэвалюцыянерам? — спытаў генерал.

— Так, — пачуў.

Начальнік штаба выйшаў. На другі дзень 120 афіцэраў, якія не прызналі начальніка штаба, былі пакараны... 15-цідзённым хатнім арыштам. І ўсё.

У такой сітуацыі няма нічога дзіўнага, што так часта адбываюцца перавароты і вайсковыя бунты. А з-за гэтай генеральскай самаволі найбольш церпіць аргентынскі народ, жыццёвы ўзровень якога хутка падае.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

## У сувязі з V Міжнародным Днём глухога

Так многім здаецца, што як глухі — дык прапашчы. Такі не лічыцца. Не для яго радасць, не для яго добрае слова, не для яго багаты свет, не для яго людское жыццё. Для яго жабрацтва, пасенне кароў, найгоршая, найбруднейшая работа ў гаспадарцы. А то яшчэ і выганяць з хаты і трымаюць пад ключом у хляўку (чула аб такім выпадку) цэлымі гадамі, аж пакуль неяк міліцыя не трапіць на няшчаснага. Цяпер ён працуе, зарабляе, адчувае сябе патрэбным, адчувае сябе чалавекам.

Каб глухі адчуваў сябе чалавекам патрэбным, паўнавартасным і... шчаслівым — вось яно, галоўнае заданне Саюза глухіх.

### У СВЕЦЕ

Існуе Сусветная Федэрацыя глухіх. Да яе належаць 42 дзяржавы з 4,5 мільёнамі глухіх і слаба чуючых.

Федэрацыя карыстаецца матэрыяльнай дапамогай ЮНЭСКО для глухіх у краінах слаба развітых. Ва ўсіх краінах саюзы глухіх змагаюцца за роўныя правы да жыцця, працы і вучобы. Атрымліваюцца часта здзіўляючыя вынікі. У свой час у ЗША была праведзена цэлая акцыя, заданнем якой было выявіць, ці глухія здольны кіраваць аўтамашынамі. Аказалася, што не толькі здольны, а робяць гэта куды лепш ад нармальных. Яны больш уважлівыя, больш дбайныя. Лічба няшчасных выпадкаў на дарогах ў год сярод глухіх шафёраў у ЗША ў 4 разы меншая, чым у шафёраў з нармальным слыхам.

У чэрвені г.г. у Ленінградзе адбылося пасяджэнне Бюро Сусветнай Федэрацыі глухіх. Прысутнічаў на ім член Бюро доктар П'ер Горман — аўстраліец — глухі ад нараджэння. Мае ён тытул доктара філасофіі, магістра сельскагаспадарчых навук і магістра педагогікі.

## Дзверы ў жыццё не зачынены

У Маскве ёсць 4 дзіцячых ясляў для глухіх дзяцей. Яны тут вучацца і гуляюць. 3-гадовыя малышы ведаюць ужо алфавіт, умеюць вымаўляць літары і гукі і адчытаць іх з губ настаўніцы.

У 1961 годзе ў Хельсінках адбылася IX Алімпіяда глухіх. Польскія глухія здабылі на ёй 28 медаляў.

### У ПОЛЬШЧЫ

Польскі Саюз Глухіх быў арганізаваны ў 1946 годзе. Ён вядзе шырокую і рознабаковую дзейнасць. Галоўнае заданне яго — запэўніць глухім працу. І гэта рэалізуецца добра. Сярод глухіх няма беспрацоўя. У шматлікіх прадукцыйных пляцоўках і спулдзельнях інвалідаў глухія займаюцца самымі разнастайнымі заняткамі: ад шаўцоў да тэхнікаў.



**Амільян Трыкошка (глуханямы) пры сваёй машыне. Ён з палестэрыну вырабляе коркі. Проста, здавалася б. Аднак у сапраўднасці праца гэта вымагае вялікай увагі, цярплівасці і здольнасці. Трыкошка добра спраўляецца і зарабляе звыш 2000 зл. у месяц.**

Навучанне працуючых глухіх праводзіцца на шматлікіх курсах. А глухія дзеці і моладзь вучыцца ў спецыяльных пачатковых і сярэдніх прафесіянальных школах рознага тыпу. У карыстанне глухім і іх прыяцелям у нас адведзены дамы культуры і шматлікія святліцы, дзе яны праводзяць час пасля працы: адпачываюць і вучацца. Пры святліцах працуе звыш 300 мастацкіх калектываў.

Гаворачы аб культурна-асветнай дзейнасці сярод глухіх, нельга не ўспомніць аб Тэатры пантамімы глухіх у Ольштыне. Тэатр вядомы ва ўсёй краіне. У гэтым годзе атрымаў заслужаную ўзнагароду Міністра Культуры і Мастацтва. Для глухіх і іх прыяцеляў выдаецца ў нас часопіс «Свет глухіх».

З думкай аб здароўі глухіх дзяцей ствараюцца спецыяльныя амбулаторыі для маці і глухога дзіцяці. Такія амбулаторыі ўжо ёсць у Варшаве, Катавіцах, Жэшове. Тут маці глухіх ці глухаватых дзяцей атрымліваюць дакладную, добрую лекарскую параду і дапамогу.

### І НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У Алецку ёсць спецыяльная школа для глухіх дзяцей. У Навасёлках (каля Беластока) — вытворчы кааператыў. Акрамя гэтага, глухія працуюць у спулдзельнях інвалідаў, дзяржаўных прадпрыемствах, напр. Фасты, Сержана. На вуліцы Вашынгтона ў Беластоку ёсць вельмі прыемная святліца з більярдам, тэлевізарам. Такія святліцы будуць арганізаваны і ў іншых мясцовасцях. З часам, напэўна, і ў Бельску, бо зараз у Бельску арганізаваны гурток глухіх (коло тэрэновэ), які будзе займацца праблемай глухіх у паветах Бельскім, Гайнаўскім і Сямяціцкім. Адрас Бельскага гуртка: вул. А. Чырвонай 31.

У бягучым годзе будзе

(Працяг на стар. 5)

## ФУТБОЛ

Становішча на 24 верасня

### І ЛІГА

| | | |
|---|---|---|
| 1. Górnik Zabrze | 14: 0 | 25: 5 |
| 2. Polonia Bytom | 12: 2 | 21:10 |
| 3. Zagłębie Sosnowiec | 9: 5 | 12: 6 |
| 4. Pogoń Szczecin | 9: 7 | 18:16 |
| 5. Ruch Chorzów | 9: 7 | 12:11 |
| 6. Legia Warszawa | 8: 6 | 9: 3 |
| 7. Stal Rzeszów | 8: 8 | 7: 7 |
| 8. Lech Poznań | 6:10 | 8:13 |
| 9. Gwardia W-wa | 6:10 | 9:17 |
| 10. Lechia Gdańsk | 6:10 | 6:16 |
| 11. Odra Opole | 5: 9 | 7:10 |
| 12. ŁKS Łódź | 5:11 | 8:17 |
| 13. Arkonia Szczecin | 5:11 | 8:17 |
| 14. Wisła Kraków | 4:10 | 9:11 |

### III ЛІГА

ZKS — Pogoń 2:1, Tur — Husar 2:3, Włókniarz — Gwardia 0:3, Skra — Warmia 8:0, ŁKS — Mazur 2:2, Sokół — Wigry 7:4.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Mazur Ełk | 13: 1 | 36: 7 |
| 2. Skra Czarna B. | 11: 3 | 22:11 |
| 3. ZKS Zambrów | 10: 4 | 16:11 |
| 4. Gwardia B-stok | 9: 5 | 25:10 |
| 5. Włókniarz B-stok | 7: 7 | 17:15 |
| 6. Tur Bielsk Podl. | 7: 7 | 16:17 |
| 7. ŁKS Łomża | 6: 8 | 12:15 |
| 8. Sokół Sokółka | 6: 8 | 17:25 |
| 9. Husar Nurzec | 6: 8 | 13:23 |
| 10. Wigry Suwałki | 4:10 | 15:23 |
| 11. Pogoń Łapy | 3:11 | 9:20 |
| 12. Warmia Grajewo | 2:12 | 11:32 |

### СТАНОВІШЧА Ў НІЖЭЙШЫХ КЛАСАХ

У класе «А» першай падгрупы за першае месца змагаюцца беластоцкія каманды «Агніска» і «Гвардыя» і гайнаўская «Пушча». Апошнім часам падключылася «Ягелёнія». Табліцу замыкае «Гусар» Нурца. У другой падгрупе таксама чатыры прэтэндэнты на першае месца: элцкі «Мазур», кольненскі «Ожэл», голдапская «Крэсовія» і монькаўскі «Промень». Аўтсайдэрам па далейшаму ЛьЗС Сухаволя. У лізе юніёраў выдатна выступае сакольская каманда «Сокул». Яна выразна адарвалася ад сваіх супернікаў. У класе «А» юніёраў без паражэння ідзе белавежскі «Жубр».

### ЧЭМПІЯНАТ СССР

І падгрупа

| | | |
|---|---|---|
| 1. Дынама К | 33:7 | 44:20 |
| 2. ЦСКА | 28:12 | 28:9 |
| 3. Шахцёр | 25:15 | 34:22 |
| 4. Зеніт | 21:17 | 33:22 |
| 5. Малдова | 21:17 | 26:22 |
| 6. СКА | 18:20 | 31:27 |
| 7. Кайрат | 18:20 | 18:21 |
| 8. Лакаматыў | 15:23 | 20:29 |
| 9. Даўгава | 11:27 | 15:30 |
| 10. Жальгірыс | 11:27 | 12:40 |
| 11. Спартак Ер | 11:29 | 16:35 |

ІІ падгрупа

Спартак М — Дынама М 1:0. Дынама Тб — Тарпеда М 1:1, Авангард — Кр. Саветаў 1:0, Нафтавік — Беларусь 2:1, Тарпеда К — Дынама Л 2:1, Пахтакор — Беларусь 3:1.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Дынама Тб | 27:13 | 31:17 |
| 2. Дынама М | 24:14 | 27:17 |
| 3. Тарпеда М | 23:15 | 40:22 |
| 4. Спартак М | 23:15 | 37:21 |
| 5. Пахтакор | 23:17 | 24:22 |
| 6. Нафтавік | 21:19 | 26:24 |
| 7. Авангард | 17:23 | 16:26 |
| 8. Беларусь | 16:24 | 20:25 |
| 9. Тарпеда К | 15:23 | 21:35 |
| 10. Кр. Саветаў | 14:26 | 22:31 |
| 11. Дынама Л | 13:27 | 14:38 |



# БАРОН ФОН ГОЛЬДРЫНГ

Мілер прапануе...




У мястэчка Кастэль ля Фантэ Генрых прыбыў падвечар. Вуліцамі мястэчка снаваліся ўзброеныя салдаты. Часам праходзілі чорнасарочнікі. Здавалася, што ў мястэчку не засталося ніводнай цывільнай асобы.

Штаб дывізіі змяшчаўся ў памяшканні колішняй гасцініцы на цэнтральнай вуліцы. Знайшоўшы кабінет Лютца, Генрых пастукаў і ўвайшоў.

— Нарэшце! — схапіўся з месца Лютц. Пасля



сардэчнага прывітання, афіцэры коратка расказалі адзін аднаму пра ўсё, што здарылася з імі за той час, пакуль яны не бачыліся. Але ніхто яшчэ не назваў імя Монікі, нібы баючыся кранацца гэтай тэмы. Нарэшце, Генрых не вытрымаў:

— Ты нічога больш мне не скажаш, апрача таго, што напісаў? — ціха спытаў ён Лютца.

— Усе мае спробы даведацца больш не далі ніякіх вынікаў. На пахаванні я быў з гэтым агідным Кубісам. Мне да болю было абразліва, калі ён паклаў на магілу вянок ад цябе! Хавалі яе падвечар, перад захадам сонца, і мне на нейкі момант здалося, што ў яго рукі чырвоныя ад крыві.

— А як справа з кватэрай? — спытаў яго Генрых.

— Дрэнна, як і ўсё тут. Нічога табе прыстойнага знайсці не мог. Сёння пераначуеш ў мяне, а заўтра сам пашукаеш.

Лютц жыў ў тым самым будынку, дзе быў штаб, на трэцім паверсе.

— Калі б ты не так змучыўся, можна было б пайсці ў замак, — яго гаспадар, граф Рамоні, вельмі гасцінны чалавек.

— Граф Рамоні?

— Ты яго ведаеш?

— Маю да яго рэкамендацыйны ліст ад Бертгольда.

— Дык тэта проста цудоўна! Ён прапанаваў мне пасяліцца ў яго, але я адказаўся — давялося б далёка хадзіць. А ў цябе машына. Вымушаны толькі папярэдзіць, што пляменніца графа вельмі нудзіцца ў замку.



— А што гэта за адна?

— Пабачыш сам!

— Ну, а Мілер як сябе адчувае?

— Ён ад твайго бацькі атрымаў за нешта падзяку і чакае цяпер павышэння. Стаў яшчэ больш нахабным.

На другі дзень Генрых напружана працаваў ў штабе. Дывізія толькі што атрымала значнае папаўненне, і Еверс даручыў Гольдрынгу разабрацца ў паперах новага афіцэрскага складу.

— А што гэта за каманда маёра Штэнгеля? — спытаў Генрых Лютца, разглядаючы адну з анкет.

— А чорт яго ведае! Я яго і ў вочы не бачыў. Гэта каманда ўваходзіла ў склад эсэсаўскай дывізіі, што тут да нас стаяла. Яна ахоўвае якісьці аб'ект. Пра яго ведае толькі генерал, начальнік штаба і Мілер. Калі я спытаў пра гэтага маёра ў генерала, ён намякнуў мне, што будзе лепш, калі мы з вамі будзем як найменш цікавіцца гэтым Штэнгелем.

— Тады і сапраўды чорт з ім! — згадзіўся Генрых, і яшчэ раз вельмі ўважна прачытаў анкету маёра. Ужо адно тое, што Штэнгель меў шэсць найвышэйшых узнагарод, сведчыла пра нейкія спецыяльныя яго заслугі перад фатэрляндам.

**У БЕЛАСТОЦКІМ ПАДПОЛЛІ.**

# Каб мы ведалі?...

Ціхая, сонечная раніца. Сымон асцярожна прайшоў у кухню. У хаце яшчэ спалі. Адчыніў акно. Час брацца за працу.

Яго ўвагу прыцягнула штосьці белае пасярод буракоў. Прыгледзеўся — пачка, апакаваная газетамі. Вышаў на панадворак, навокал ні жывой душы.

Пачка ляжала ў куце агарода. Нецярпліва разгарнуў яе. Адозвы!

— Ах, вось як!

Кузьмін хутка прынёс рыдлёўку і закапаў іх пад суседавым плотам.

Мінула не больш, як паўгадзіны, калі ў дзверы пастукалі. Уваходзяць дэфензіўшчыкі Мілер, Байбек і адзін паліцыянт.

— Ад імя Рэчыпаспалітай падвяргаем вас рэвізіі.

— На рэвізію без сведкаў не дазваляю.

Паклікалі Івана Галіцкага, гаспадара дома пры вуліцы Кашыковай 16, у якім жыла сям'я Сымона Кузьміна.

Паварочалі ў бялізне, пасцелі.

— Якія яшчэ маеце памяшканні?

— Паддаша, хлеўчык.

Сюды-туды заглянулі.

— Трэба паглядзець у агародзе, — кажа Мілер.

— Агарод не мой, належыць да гаспадара дома, — тлумачыць Кузьмін.

— Нічога.

Уважліва расхілялі бурачаныя лісці; па некалькі разоў у адным і тым жа месцы. Мілер зірнуў на Байбека, той пацiснуў плячыма. Вярнуліся да хлеўчыка, гэтым разам дакладна шнырачы па закутках. «Усё ж нешта здагадваюцца», — Кузьмін не адзываўся.

— Чаго яны да вас чапляюцца? — здзіўляўся пасля Галіцкі.

— Чорт іх ведае.

Праз тры дні Сымон адкапаў лістоўкі. Апоўначы закідаў імі тратуары і панадворкі пры вуліцах Кашыковай, Вікторыі, Шапэна, Скарупскай. Вярнуўся дамоў. Выбраў дзве большыя адозвы і наклеіў на франтовых дзвярах II-га камісарыята дзяржаўнай паліцыі, што знаходзіўся на рагу вуліцы Сташыца і Кашыковай. «Маеце, раз вы такія хітрыя!»

Назаўтра Галіцкі палохаўся.

— Пане Кузьмін! Усе вуліцы засыпаны адозвамі.

— Хто ж мог гэта зрабіць?

— Ліха яго ведае, відаць, камусьці ў камуну захацелася пазабаўляцца.

Пасля абеду напаткаў знаёмага паліцыянта Яна Лінка.

— Надалі нам сёння камуністы работы, — скардзіўся.

— Якія?

— Каб мы ведалі?!

* ✲ *

Пад канец лета 1936 года пабудавалі ўласную хату пры вуліцы Спацэровай 34.

Адвячоркам прыйшоў Алёша Салавей.

— Патрэбны пісталет. У Гродне паявіўся небяспечны правакатар, якога неабходна ліквідаваць. Разумееш!

У беластоцкім 42-ім пяхотным палку служыў сяржант Мікалай Міхалоўскі, родам з аколіц Гарадка. Бывала, часта заходзіў да ТБШ-оўскага клуба. Свой хлопец!

— Маю да цябе справу, Коля, — Кузьмін разлічваў на яго дапамогу, бо вайсковыя мелі права купляць зброю.

Не адмовіў. Навюсенькі «Віс» і дваццаць патронаў — ёсць! Паехалі да лесу выпрабаваць.

Гэтым разам рэвізія не на жарты ўстрывожыла Сымона. Шаснаццацігадовы сын, Мікалай, дрыжэў на ўсім целе; жонка пабялела, як крэйда.

Забалаганілі шафу, сундук, пасцель. Перабралі галоўкамі горбу капусты ў куце. Кузьмін уздрыгануў. Мілер падышоў да пляскатай скрынкі са шклом. У ёй, на дне, ляжыць «Віс»! Зверху — салома, шматы. Мілер сунуў руку. За вузка. Ачысціў рукаў.

— Вядзіце ў хлеўчык! — загадаў. Зайшлі. З ломатам перастаўлялі ўсялякія вёдры, цэбрыкі, прылады. Кузьмін паглядзеў на вялікі сажань дроў. Глыбока ў ім схаваная пачка лістовак... Вось, вось, здаецца не вытрымаюць нервы!

Перасталі, намучыліся. Байбек выцер лоб. Кузьміну быццам камень зваліўся з грудзей. Словы — «вы арыштаваны!» — выслухаў спакойна. Забралі таксама і сына Мікалая.

У ваяводскім паліцыйным арышце пры вул. Варшаўскай 65 размясцілі іх у ізалятках.

Удзень выклікаюць Кузьміна да невялікага будынку, што стаіць пасярэдзіне пляца. Турэмшчыкі празвалі гэтае збудаванне «катоўняю», таму што там праходзілі найбольш жорсткі допыт.

— Пэўна, ведаеце Паўла Карпешука з Альшанкі каля Заблудава? — Мілер прытворна ветлівы.

— Не ведаю ніякага Паўла.

— Ах, ты сукін - сын!

Мілер адварочваецца да незнаёмага юнака, які стаяў апусціўшы рукі.

— Ну, расказвай, як было?

— Сустрэўся з Сымонам Кузьміным на яго кватэры, але адразу лістовак не браў, баючыся правалу. Дамовіліся так, што сын Мікалай прывозіў лістоўкі на ката-

**(Працяг на стар. 5)**

# 900 ГОД БЕЛЬСКА

**Урачыста адзначыў свой юбілей горад Бельск. Урачыстасці працягваліся два дні. Было шмат гасцей, у тым — савецкая дэлегацыя з Брэсцкай вобласці; было што паслухаць і паглядзець. А вось што ўвекавечніў у час юбілею Бельска наш фотарэпарцёр Г. Рагазінскі.**

**На плошчы перад Беларускім ліцэем мітынг пад лозунгам «Ніколі больш вайны». На трыбуне прадстаўнікі ваяводскіх і павятовых улад і арганізацый.**




**На выстаўцы «Бельск учора і сёння».**



**Выступае калектыў песні і танца пры ГП БГКТ.**



**Выстаўка сельскагаспадарчых машын.**



**Велагоншчыкі — на старт!**

---

Пасля заканчэння працы Гольдрынг і Лютц паехалі да графа Рамоні.

Замак графа быў размешчаны кіламетр ад мястэчка, на высокай скале, якая адзінока тарчала каля цясніны, як вартаўнік, што ахоўвае ўваход у даліну.

Лютца ў замку, відавочна, ужо добра ведалі, бо ахова з двух чорнасарочнікаў прапусціла машыну ў вароты без затрымкі. Каля параднага пад'езда замка стаяў яшчэ адзін чорнасарочнік.

— А граф, відавочна, адчувае сябе на сваёй бацькаўшчыне не вельмі спакойна! — заўважыў іранічна Генрых.

— Я не разбіраюся ва ўзаемаадносінах італьянцаў і ва ўсім тым, што тут адбываецца. Афіцыйна граф не мае ніякага чыну і, здаецца, не належыць да ніякай партыі, прынамсі так ён мне заявіў. А тым часам яго ахоўваюць ад гарыбальдыйцаў, бы нейкую вялікую персону.

— Відавочна, для гэтага ёсць падставы...

Госці ў суправаджэнні слугі падняліся на другі паверх і зайшлі да вялікага пакою, што нагадваў карцінную галерэю.

— Граф закаханы ў жывапіс і, здаецца, разбіраецца ў ім, — пачаў было тлумачыць Лютц, але, пачуўшы шум у калідоры, змоўк.

На парозе з'явілася каляска на трох колах, якую пхаў ззаду здаравенны лакей. У калясцы, адкінуўшыся на падушкі, сядзеў граф Рамоні. Гэта быў стары тато ўзросту, калі чалавеку з аднолькавым правам можна даць і семдзесят, і восемдзесят, і дзевяноста год, настолькі старасць сцерла тыя межы, што вызначаюць ганяцце нейкага часу.

Убачыўшы графа, Лютц і Генрых выструніліся.

— Рады вас вітаць, сіньёры, у сябе ў замку! — сказаў па-нямецку граф Рамоні.

— Сіньёр, — адказаў Лютц, — дазвольце адрэкамендаваць вам майго сябра барона фон Гольдрынга. Генрых пакланіўся.

— Мой прыбраны бацька, генерал-маёр Бертгольд, прасіў перадаць свае самыя шчырыя прывітанні, граф!

— Гэта проста цудоўна, барон, што выпадак прывёў у мой замак сына Вільгельма Бертгольда, з якім у нас год дзесяць таму было столькі супольных спраў!.. І дзе вы затрымаліся?

— Пакуль карыстаюся гасціннасцю гаўптмана Лютца, але спадзяюся, што...

— Наўрад ці знойдзеце нешта прыстойнае ў нашым мястэчку! І я адчуваў бы сябе ў неадплатным даўгу перад генерал - маёрам Бертгольдам, калі б яго сын не знайшоў прытулку ў маім замку. І мая пляменніца, Марыя-Луіза, таксама. Зараз мы пойдзем да яе.

Граф зрабіў рух рукою, і слуга моўчкі пакаціў каляску да дзвярэй. Гольдрынг і Лютц выйшлі следам за ёю.

Неўзабаве сустрэлі яны высокую, хударлявую жанчыну, год трыццаці.

— Гэта вельмі міла з вашага боку, сіньёр Лютц, што вы прывялі да нас барона, — пявучым голасам сказала Марыя-Луіза і бесцырымонна аглянула Генрыха з галавы да ног. — Спадзяюся, каханы дзядзька, ты здагадаўся запрапанаваць барону затрымацца ў нас?

— Якраз таму я і прывёў нашых гасцей да цябе, каб ты пацвердзіла маё запрашэнне.

— Я яго не толькі пацвярджаю, а нават прашу барона застацца ў нас. У нас тут не зусім спакойна і вы маглі б узмацніць ахову.

— І гэта ўсё, чым я магу вам служыць, сіньёра?

— Я запрасіла вас быць маім рыцарам, хіба гэтага мала? Абавязкі рыцара не маюць абмежаванняў, — шматзначна падкрэсліла апошнія словы Марыя-Луіза.

На другі дзень Курт перавёз рэчы обер-лейтэнанта ў замак, але Генрых не бачыў гэтага дня ні гаспадара, ні гаспадыні, бо вярнуўся да сябе позна. Лёг спаць, але сон не браў. З галавы не выходзіў загад, які ён прачытаў сёння. У гэтым загадзе галоўнакамандуючы нямецкімі вайскамі ў Італіі фельдмаршал Кесерлінг ледзь не даслоўна выклад-

**(Працяг на стар. 7)**

## Людзі, сярод якіх мы жывем

# Павел Барсук

У Парослах Паўла Барсука завуць камуністам. Пайшло гэта з 1933 года. Тады Паўлу Барсуку было 26 год і ён закахаўся ў прыгожую дзяўчыну Насцю.

— Мае бацькі, браты, сёстры і сваякі, — гаворыць Павел Барсук, — усё рабілі, каб я не дружыў з Насцяй, каб не хадзіў да яе. А калі я стаў гаварыць аб жаніцьбе, усе заявілі, што адракуцца ад мяне, што мне зусім нічога не дадуць з хаты і г.д. Бацькі Насці таксама былі незадаволены нашым каханнем. Прычынаю такога незадавальнення было тое, што мяне маленькага ахрысцілі ў касцёле, а Насцю — ў царкве, што мяне называлі каталікам, а яе праваслаўнай. Ды рэлігійных фанатыкаў хапала як з аднаго, так і з другога боку.

У той час, як усім вядома, не было іншых устаноў, апрача царквы і касцёла, якія ўзаконілі б як сям'ю маладых закаханых людзей.

І вось мы тады пакляліся ў вернасці адзін другому і цвёрда сказалі ўсім, што не пойдзем ані ў царкву, ані ў касцёл, што і без благаслаўлення святароў мы будзем кахаць адзін аднаго усё жыццё і будзем лічыць сябе мужам і жонкай.

Бацька Насці быў разважны чалавек, верыў Паўлу і згадзіўся прыняць яго без шлюбу да сваёй хаты.

Паўлу бацькі не далі нават яго ўласнага гарнітура. Адракліся ад яго не толькі бацькі, але і сваякі. Многіх абурала тое, што Павел і Насця парвалі з адвечнымі традыцыямі, звычаямі і нормамі таго грамадскага жыцця.

Фанатыкі даказвалі, што не будзе ў іх сямейнага жыцця, што яны хутка разыдуцца, а калі не разыдуцца, дык будуць жыць так, як кот з сабакам. Маладую бясшлюбную сям'ю не любілі ў вёсцы, спрабавалі пасварыць, спрабавалі нахіляць адны на праваслаўе, другія на каталіцызм. Да іх хаты не аднойчы прыходзіў і поп і ксёндз. Але ў гэтых людзей былі цвёрдыя характары. І вось з гэтага часу Паўла Барсука сталі ў вёсцы называць камуністам.

Не гледзячы ні на што, Павел Барсук пражыў у вялікай згодзе са сваёй жонкаю амаль 30 год. Ім пачалі зайздросціць.

Аб іх многа гавораць людзі. У вёсцы можна пачуць аб тым, што самы справядлівы чалавек сярод аднавяскоўцаў — гэта Павел Барсук, што ў яго хаце, як у нікога, заўсёды мір, заўсёды згода, заўсёды ветлівасць і гасціннасць.

Барсукі не мелі сваіх дзяцей. Яны маюць выхаванка, які ўжо жанаты. Але іх нявестка і выхаванак за тры гады яшчэ ані разу не пасварыліся ні з прыбранымі бацькамі, ні паміж сабою, у той час, калі родныя дзеці многіх аднавяскоўцаў крыўдзяць старых бацькоў ды судзяцца паміж сабою.

Паўла Барсука ўсе паважаюць, і таму выбралі яго радным, а першая сесія грамадскай рады нарадовай у Баршчэве пасля выбараў увяла яго ў лік няштатных членаў прэзідыума. Паўла Барсука ў грамадзе Баршчэва знаюць таксама як добрага арганізатара. Ён па сіле сваіх магчымасцей дапамагаў станаўленню ў гэтых мясцовасцях народнай улады і працаваў нейкі час войтам у гміне Бацечкі. У 1946 годзе ў сваёй вёсцы ён арганізуе партыйную арганізацыю ППР, а пазней ОРМО.

Па партыйнай лініі Павел Барсук і зараз шмат працуе. Ён з'яўляецца сакратаром грамадскага камітэта ПАРП у Баршчэве.

**М. СВАЯК**

## ПА СЛЯДАХ ХУЛІГАНСТВА

Быў нармальны — не святочны і кірмашовы — вераснёвы дзень. Нізка над зямлёю віселі чорныя хмары.

Службовая «Варшава» Ваяводскай Камендатуры МО прабіраецца вуліцамі Беластока. Стрэлкі гадзінніка паказваюць 10-тую гадзіну раніцы.

Паручнік Юзэф Стружаноўскі, звяртаючыся да мяне, сцвярджае:

— У нашым, Беластоцкім, ваяводстве рост колькасці няшчасных выпадкаў на дарогах значна перавышае прырост колькасці машын.

— Калі праглядаеш штодённы рэестр гэтых няшчасных здарэнняў, — дадае яго калега падпаручнік Ежы Рэлуцкі, — проста здзіўляе чалавека людская лёгкадумнасць. Яна перш за ўсё з'яўляецца асноўнай прычынай большасці няшчасных выпадкаў.

Даязджаем да скрыжавання вуліц Сянкевіча і Варшаўскай. Стаіць натоўп людзей. Гэта найбольш пэўны знак, што здарылася «кракса».

Аказваецца, жыхар Беластока Ян Сіпка нечакана выбег на сярэдзіну вуліцы і шафёр аўтамашыны «П-200» Маліна Кастэцкая з Беластока не паспела затармазіць. Вынік: Яна Сіпку хуткая дапамога забрала ў шпіталь. Вывад: пераходзячы праз вуліцу, лепш не любавацца блакітным небам.

Едзем далей. Перад намі мігаціць у сонцы абцякальнымі формамі новенькі лімузін. Стрэлка спідометра нашай «Варшавы» паказвае 60 км/гадз., **а на вуліцах горада можна развіваць хуткасць толькі да 40 км/гадз.** Гэтае правіла добра ведае кожны шафёр. Гэты ў лімузіне таксама. А ўсё ж яшчэ больш цісне газ і пакідае нас далёка ззаду.

Урэшце мы за горадам. Ад Заблудава накіроўваемся на Гайнаўку. Недалёка за Нарвай паяўляецца на кругаглядзе грузавік. Падпаручнік Ежы Рэлуцкі падымае свой чырвона-белы «лізачок». Машына паслухмяна спыняецца.

— Кантроль дарожнага руху, — заяўляе падпаручнік. — Дазвольце дакументы.

Потым яшчэ праверка асвятлення, спраўнасці руля і транспартаванага грузу. Усё ў парадку. Дзякуем, да пабачэння!

Едзем далей. Пад самай Гайнаўкай даганяем веласіпедыста. Імчыцца левым бокам шашы, бы




радавіты англічанін. Польшча аднак — не Англія. У нас абавязвае правабочны дарожны рух.

— Дазвольце веласіпедную карту, — просіць міліцыянер.

— Не маю.

— Веласіпед ваш таксама няспраўны. Няма пры ім званка і гумовая пярэдняя шына павязана шнурком. Чаму едзеце такім веласіпедам і яшчэ левым бокам?

Лёгкадумны веласіпедыст Міхась Ахрымюк з Дубін, працаўнік Гайнаўскага тартаку, маўчыць. Калі міліцыянер падае яму 10-златовы штрафны білет, адчувае сябе выразна пакрыўджаным. За што? За такое глупства? Ён жа спакойна ехаў, нікога не чапаў.

На вуліцы 1-га Мая ў Гайнаўцы ізноў сустракаем некалькі веласіпедыстаў. Гэта пераважна дзеці. Катаюцца па двух на адным веласіпедзе і па тратуары. Калі звяртаем увагу, школьніца Станіслава Стампольская з абурэннем адказвае:

— Нашы мясцовыя міліцыянеры дазваляюць вазіць пасажыраў на веласіпедзе. Яны самі возяць.

О, гэта ўжо дрэнна! Мае спадарожнікі, афіцэры МО, выразна адчуваюць сябе няёмка. Абяцаюць спраўдзіць і выдаць адпаведныя распараджэнні.

Затрымоўваемся за Гайнаўкай на шашы да Белавежы. Імжыць халодны, непрыемны дождж. Струменні вады праціскаюцца за каўнер і сплываюць па целе. Хутчэй бы пакінуць шашу і схавацца недзе ў цёплай прытульнай хаце! Міліцыянерам аднак нельга пакінуць службу. Яны, не гледзячы на непрыхільнасці надвор'я, мусяць сачыць за парадкам. Было б вельмі добра, каб кожны чалавек сваім захаваннем стараўся не абцяжарваць гэтай і так ужо цяжкай службы.

На шашы рух адносна невялікі. Праязджае некалькі матацыклістаў, пару аўтамашын і адзін трактар. Усе паслухмяна затрымоўваюцца. Наогул усё ў парадку.

Магутны лівень змушае нас схавацца ў машыну. Вяртаемся ў Гайнаўку. Скрыжаванне вуліц 1-га Мая і Навоткі. Раптам **з левага боку (ад чыгуначнага пераезду)** выскачыла таксі і на высокай хуткасці праімчалася перад самым носам міліцыйнай «Варшавы». Балюча заскрыпеў тормаз і ўсіх нас з размаху кінула ўперад. Шафёр груба вылаяўся. **Гэта ж неслыханае вымушэнне першынства язды!** Гонім таксі. Дождж залівае шыбы. Відаць зусім слаба. Не памагаюць нават шчоткі, працуючыя без перапынку. Шафёр таксі цісне на газ. Урэшце выпярэджваем яго, а паручнік Ю. Стружаноўскі выцягвае праз акно свой «лізачок». Таксі затрымоўваецца.

— Чаму вы вымусілі нас уступіць першынства, хаця паводле правіл дарожнага руху першымі павінны былі праехаць мы?

— Думаў, што паспею... — нерашуча адказвае шафёр таксі № 1 з Гайнаўкі.

Было б аднак лепш падумаць шафёру Васілю Пракапюку аб тым, што, нестасуючыся да правіл дарожнага руху, пагражаў жыццю сваіх пасажыраў і нашаму. Гэтая лёгкадумнасць каштавала яго 100 зл. штрафу.

Неба крыху працерла- →



**Непадпарадкаванне правілам дарожнага руху лічыцца злачынствам. Трэба плаціць штраф.**

# ДУБРОЎШЧЫНА

працяг са стар. 1

не хапае таго, што навучыў дзед ці бацька як трэба гаспадарыць. Яна ўсё больш хоча ведаць і ўсё шырэй у гаспадараванне ўводзіць новыя метады. Аб адносінах моладзі да сельскай гаспадаркі сведчыць яшчэ і такі факт, што калі ў першых гадах існавання сельскагаспадарчага тэхнікума ў Ружаным Стоку зусім не было вучняў з Дуброўскага павета, дык у мінулым годзе на агульную колькасць 320 вучняў 106 было з Дуброўшчыны. Зацікаўленне земляробаў сельскагаспадарчай асветай усё больш павялічваецца.

Сельгасасвета між іншым заахвоціла сялян прымяняць мінеральныя ўгнаенні. Напрыклад, у мінулым годзе сяляне павета закупілі 2.632 тоны мінеральных угнаенняў. Зараз у павеце няма такой гаспадаркі, дзе не прымяняліся б мінеральныя ўгнаенні.

Сельскагаспадарчыя гурткі ўсё больш уводзяць комплексную механізацыю ў апрацоўку зямлі. Лік 16 трактараў, якія працуюць на палях гурткоўцаў, мо' і невялікі. Але хопіць успомніць, што яшчэ 15—20 год таму назад драўляны плуг (саха) на Дуброўшчыне зусім не быў музейным экспанатам.

### У СЛАЎНЕ — ГУРТОК СЛАЎНЫ

Першы гурток на Дуброўшчыне арганізаваны быў у Слаўне. Члены яго як першыя ў павеце купілі трактар з камплектам сельгасмашын. Дзякуючы адпаведнай арганізацыі працы, гурток у Слаўне хутка стаўся слаўным на ўсю аколіцу. Сяляне са Слаўна масава вырошчваюць кукурузу і цукровыя буракі. Кукурузу сіласуюць, атрымоўваючы высакаякасныя сіласы. Адпаведны корм даў магчымасць павялічыць ім жывёлагадоўлю. У мінулым годзе яны ў мясцовай злеўні (дарэчы, пабудаванай грамадскім чынам па ініцыятыве сельгасгуртка) прадалі 66.950 літраў малака, атрымоўваючы 229.850 злотых. Гурткоўцы са Слаўна як звычай адпаведна прымяняюць мінеральныя ўгнаенні і кваліфікаванае зерне на пасеў. У выніку гэтага пастаянна атрымоўваюць найлепшы ў аколіцы ўраджай. У мінулым годзе яны, напрыклад, атрымалі ў сярэднім з гектара: 17,8 цэнтнераў асноўных чатырох збожжавых культур, 320 цэнтнераў цукровых буракоў (на плошчы 5 гектараў) і 800 цэнтнераў кукурузы (на плошчы 2,5 гектараў). Апрача гэтага, яны павялічылі колькасць жывёлы з 97 кароў у 1959 годзе да 125 кароў у 1961 годзе. Адпаведна ўзрасла колькасць малака ад адной каровы з 1800 літраў да 2.300 літраў. Коней за гэты час у вёсцы паменшылася з 74 да 55.

Сельскагаспадарчы гурток у Слаўне не выключны. Усе сельгасгурткі на Дуброўшчыне атрымоўваюць значна лепшыя вынікі гаспадаравання, чым сяляне, якія жывуць у вёсках, дзе няма сельгасгурткоў. Адпаведная праца сельгасгурткоў садзейнічае пастаяннаму росту ўраджаяў і ва ўсім павеце. Калі 6—7 год таму назад сярэдні ўраджай 4-ох асноўных збожжавых культур у павеце не перавышаў 10 цэнтнераў з гектара, то ў мінулым годзе ён узрос да 15,6 цэнтнераў. Ёсць члены сельгасгурткоў як, напрыклад, Генрык Шышкевіч з Кіраеўшчыны, які на 8-мігектаравай гаспадарцы ў мінулым годзе атрымаў у сярэднім з гектара: 27 цэнтнераў жыта, 20 ц. аўса, 28 ц. ячменю, 16 ц. азімай пшаніцы, 220 ц. бульбы, 400 ц. цукровых буракоў і 1000 цэнтнераў кукурузы.

### 212 ТРАКТАРАЎ — 1 ГОД — 27.000.000 ЗЛ.

Сельскагаспадарчыя гурткі адкрываюць шырокія магчымасці для развіцця сельскай гаспадаркі Дуброўскага павета. Варта тут падкрэсліць, што для атрымання вышэй упамянутых дасягненняў выкарыстаны далёка не ўсе магчымасці. Яшчэ дагэтуль толькі 30 сельгасгурткоў у павеце карысталася фондам развіцця сельскай гаспадаркі. І таму ў мінулым годзе, напрыклад, з сумы 16 мільёнаў 463 тысячы злотых, якая была на конце вёсак з ФРР, сельгасгурткі выкарысталі толькі 2 мільёны 322 тысячы злотых. Як жа іначай выглядала б сельская гаспа-

# Трыбуна чытачоў

## Дажынкі

2 верасня ў Орлі адбыліся дажынкі. На пачатку выступіў з прамовай гаспадар дажынак, а пасля выступалі самадзейнікі з Пілік, Орлі і са Шчытоў. Выступленне гурткоў мастацкай самадзейнасці вельмі ўсім спадабалася. Асабліва выдзяляліся звонкія галасы шчытоўцаў.

**Сцёпа Грыгарук**
Галады

## ВЕСТКІ З КРЫЎЦА

Вёска Крывец (Гайнаўскі павет) налічвае звыш 50 гаспадароў. Ёсць тут школа з пяццю настаўнікамі і звыш ста вучнямі. Пры школе ёсць палеткі вучняў з гароднінай і кветкамі. Школа, можна сказаць, патанае ў кветках. У вёсцы новы брук, а вуліца абсаджана дрэўцамі. Таксама ёсць тут новая крама, пры пабудове якой актыўна працавала мясцовае насельніцтва.

Вёска электрыфікавана. Шматлікая моладзь належыць да такіх арганізацый, як БГКТ, ЛьЗС і ЗМВ. Шкада толькі, што спіць мастацкая самадзейнасць, якая ў мінулых гадах добра дзейнічала. Трэба яе ажывіць, бо шмат тут здольных дзяўчат і хлопцаў.

**Янка Пракапюк**
Ласінка

## Нашы садаводы

Пятро Саевіч і Васіль Грыгарук з вёскі Ляўкова (Гайнаўскі павет) праславіліся на ўсю аколіцу тым, што выгадавалі прыгожы малады сад. Аднойчы я наведаў Пятра Саевіча.

— У мяне сёлета, як ніколі раней, урадзілі яблыкі, — гаворыць Саевіч, клапатліва падпіраючы цяжкія галіны.

І сапраўды, у садзе маладыя дрэўцы аж гнуцца пад цяжарам сакавітых антонавак, кальвінак, ракавак, спасавак.

У Васіля Грыгарука малады сад займае ўвесь прысядзібны ўчастак.

З гэтых гаспадароў бяруць прыклад і іншыя. Штораз больш нашых сялян стараецца завесці ў сябе прыгожы сад. Асабліва выдзяляецца тут Сцяпан Бандарук са Старога Ляўкова. Ён мае немалыя дасягненні. У яго садзе растусь розныя гатункі добрых пладовых дрэў. Восенню навакольныя жыхары купляюць у яго адменныя дрэўкі, асабліва яблынькі і грушкі. Забудаванні яго патанаюць у зелені пладовых дрэў.

Такімі садаводамі ганарыцца наша аколіца.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## Школьныя справы

Дзякуючы намаганням кіраўніка Мар'яна Філановіча пачатковая школа ў Паўднёвым Востраве добра падрыхтавалася да новага навучальнага года. Адмалёваныя сцены ў класных пакоях, усюды наведзены чысціня і парадак. У час канікул быў праведзены рамонт даху коміnaў, атынкаваны некаторыя сцены.

Школа ўжо на ўвесь год забяспечана палівам. Усё гэта вельмі важна. Школа багата таксама сталярскімі і слясарскімі прыладамі. Там усё ёсць. Многія з гэтых прыладаў кіраўнік школы закупіў у час канікул. У інспектараце дабіўся таго, каб школа атрымала кінопраектар. А такі апарат маюць пакуль што толькі дзве школы ў Сакольскім павеце.

Школ- ў Паўночным Востраве ў мінулым навучальным годзе здабыла трэцяе месца ў конкурсе ашчаднасці і атрымала ўзнагароду ў суме 1000 зл.

Вясною вучні 5, 6 і 7 класаў прымалі ўдзел у пасадцы лесу і зарабілі 368 зл. Усе гэтыя грошы будуць прызначаны на экскурсію ў Закапанэ. Сёлета ў чэрвені школьнікі былі на экскурсіі ў Варшаве і вельмі ёю задаволены. І вось таму яшчэ большую зацікаўленасць праяўляюць яны зараз у ашчаднасці.

Калі ў Востраве знаходзішся ля школы, у вочы кідаецца малады сад, у якім расце больш 40 фруктовых дрэўцаў.

Непадалёк ад саду знаходзяцца тутавы (марвовы) і ёлачны гадавальнікі. Тутавымі дрэўкамі, паводле слоў кіраўніка Мар'яна Філановіча, будзе высаджаны з аднаго боку школьны пляц. З часам будзе гэта прыгожы жываплот. З другога боку будуць расці ёлкі.

Школа ў Паўночным Востраве акружана вялікай заботай і апекай кіраўніка школы. мх.

## На добрай дарозе

Не толькі на вёсках ёсць гаспадары і сельскагаспадарчыя гурткі. Ёсць гаспадары і ў мястэчках, у тым ліку і ў Бельску. У Бельску існуе таксама сельгасгурток. Так, як усюды, перажываў ён пачаткова нямала цяжкасцей арганізацыйнага характару. Не адразу таксама мелі перакананне бельскія гуртkоўцы адносна механізацыі сельскагаспадарчых работ. Усё гэта прыходзіла паступова. На самы пачатак гурток купіў толькі малацільны агрэгат. Грашовыя ўклады 25% кошту агрэгата ўнесла тады толькі 16 гаспадароў. Супольная праца супольным малацільным агрэгатам пераканала іншых сялян у тым, што карысна належаць да сельгасгуртка, бо ён атрымлівае сродкі на пакупку машын з фонду развіцця сельскай гаспадаркі. І ўжо на пачатку гэтага года на сваім сходзе гуртkоўцы пастанавілі купіць два трактары з поўным камплектам сельскагаспадарчых машын. Грашовыя ўклады на пакупку гэтых машын унесла ўжо 27 гаспадароў.

Нядаўна сельгасгурток купіў яшчэ адзін трактар з усімі іншымі машынамі. Яшчэ дайшло 8 удзельнікаў пакупкі. І ўжо зараз налічваецца 35 удзельнікаў пакупкі машын, а членаў сельгасгуртка толькі 19.

Трэба падкрэсліць тое, што гуртkоўцы на сваіх палетках атрымліваюць лепшыя ўраджаі ад гаспадароў - аднаасобнікаў. Справа ў тым, што яны больш карыстаюцца парадамі агранома і палявыя работы выконваюць машынамі.

На свае палі вясною яны вывезлі 18 тон вапны, загаспадаравалі 7 га пасбішч, згодна з правіламі даглядаюць фруктовыя дрэвы і засеялі 13 га ільну.

Адным словам, бельскі сельгасгурток на добрай дарозе развіцця. Да гэтага часу выкарыстаў ён з фонду развіцця сельскай гаспадаркі 379 тыс. зл. Асталося яшчэ выкарыстаць на механізацыю больш як 480 тыс. зл. Калі будзе выкарыстана і гэтая сума грошай, сельгасгурток будзе мець яшчэ лепшыя дасягненні.

Гурток мае таксама свае цяжкасці. Адной з іх, бадай што галоўнай, з'яўляецца недахоп гаражоў на машыны. Больш таго, не мае ён плошчы на пабудову гаражоў. І вось таму гурток звярнуўся да Прэзідыума МРН у Бельску ў справе прыдзелу плошчы пад пабудову гаражоў. Праз нейкі час і гэтую цяжкасць адолеюць бельскія гуртkоўцы, і напэўна даб'юцца новых поспехаў. (мх)

## КІНО

**ПРАГРАМА**
**на 1—7.X.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Profesor Malmock" (NRD), 2—4. „Majowe gwiazdy" (czeski), 5—7.

**Кляшчэлі**
„Wielki balet w Ameryce" (radz.), 2—4. „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 5—7.

**Навасады**
„Taka miłość" (czeski), 6—7.

**Нараў**
„100 kilometrów" (włoski) 3—7.

**Нараўка**
„Alba Regia" (węgierski) 3—7.

**Чаромуха**
„Dzień ostatni dzień pierwszy" (radz.), 2—4. „Żebro Adama" (USA), 5—7.

**Чыжы**
„Tu radio Gliwice" (NRD), 3—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Zwykła historia" (radz.), 3—7.

**Бранск**
„Marcin w obłokach" (jugosł.), 2—4. „Bestia" (węgierski), 5—7.

**Гродзіск**
„Zuzanna i chłopcy" (polski), 6—7.

**Орля**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 3—7.

**Райск**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Pierwszy lot w kosmos" (radz.), 2—4. „Herszt" (franc.), 5—7.

**Міхалова**
„Letni sen" (szwedzki), 2—4. „Ukryte skarby" (czeski), 5—7.

**Супрасль**
„Koncert gwiazd" (radz.), 2—4. „Rzeczywistość" (polski), 5—7.

**Чорна Беластоцкая**
„Noc szpiegów" (franc.), 2—4. „Bestia" (węgierski), 5—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Domek z kart" (polski), 2—4. „Pragnienie" (rumuński), 5—7.

**Мілейчыцы**
„Przeciwnicy" (węgierski), 2—4. „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 5—7.

**Нурэц**
„Stracone złudzenie" (angl.), 2—4. „Tu radio Gliwice" (NRD), 5—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Król strzelców" (czeski), 2—4. „Drzwi stoją otworem" (jugosł.), 5—7.

**Сухаволя**
„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 2—4. „Wyższa zasada" (czeski), 5—7.

**Шудзялава**
„Zmartwychwstanie" (radz.), 3—7.

**Янаў**
„Z soboty na niedzielę" (węgierski), 2—4. „Gorsza miłość" (węgierski), 5—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Milcząca gwiazda" (polski), 6—7.

**Новы Двор**
„Statek z dynamitem" (rumuński), 6—7.

**Ружаны Сток**
„Wyższa zasada" (szwedzki), 6—7.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Bltk F-3

(Працяг са стар. 3)

ваў ужо знаёмы Генрыху план расправы з мясцовым насельніцтвам, які яшчэ летам склаў Бертгольд. Вось жа, план Бертгольда прыняты і ўступіў у дзейнасць! І, магчыма, цяпер, калі ён, Генрых, ляжыць вось у гэтым шырокім ложку, патанаючы ў графскіх пухавіках, на яго Бацькоўшчыне гараць наддняпроўскія вёскі, гарады, гінуць тысячы людзей. І тут таксама пральецца нявінная кроў. Пральецца на яго вачах, у яго прысутнасці! Хутчэй бы ўжо атрымаць нейкую вестку ад «антыквара», хай нават з самым складаным заданнем!

Раніцай Генрых зайшоў да Мілера. У яго кабінеце быў нейкі цывільны. Кінуліся ў вочы яго надзвычай шырокія і густыя бровы.

Мілер паклікаў фельдфебеля і загадаў вывесці цывільнага заднім ходам.

— Ведаеце, Ганс, — сказаў Генрых, калі яны засталіся адны, — я шмат думаў ўчора пра загад фельдмаршала. Баюся, што работы ў нас пабольшае.

— Гэты загад мне крыху развяжа рукі, — сказаў Мілер. — Для добрай аперацыі ў нас яшчэ не хапае сіл. Але хутка яны будуць! І мы з вамі, Генрых, наладзім добрае паляванне на гэтых макароннікаў. А пакуль я вярбую агентуру.

«Відавочна, той густабровы і ёсць адным з такіх агентаў!» — падумаў Генрых.



— А вам нічога не казаў генерал Бертгольд?

— Не.

— Так я і ведаў! Справа ў тым, што я, на аснове нашых з вамі гутарак, паставіў перад генералам пытанне пра ваш пераход да нас.

— Пачалі размову з генералам, не спытаўшы мяне?

— Я не мог чакаць, бо на мяне, апрача звычайных абавязкаў, пакладзены яшчэ адзін і, магчыма, найважнейшы: вонкавая ахова нейкага вельмі важнага аб'екта, пра які я нічагутка не ведаю. Я папярэджаны, што за аб'ект адказваю галавою, хоць мая служба ахоўвае яго толькі звонку. Унутры ахоўвае спецыяльная каманда нейкага маёра Штэнгеля... Мне вельмі патрэбна ваша дапамога!

— Я не разумею, што вы ад мяне хочаце? Каб я даведаўся, што гэта за аб'ект?

— Я меў на ўвазе даручыць ахову вам.

Генрых задумаўся. На пераход да службы СД ён ад «антыквара» дазволу не атрымаў. А ідзе пра нешта вельмі важнае, калі ад самага Мілера хаваюць, што за аб'ект павінен ён ахоўваць.

— Дык што вы скажаце на маю прапанову?

— У мяне ёсць звычай: спярша, чым за што ўзяцца, добра падумаць. Мне трэба хоць прыблізна пазнаёміцца з абавязкамі, якія я маю несці. Мне ж таксама не хочацца рызыкаваць сваёй галавой!



— Тады давайце зараз жа паглядзім гэты пракляты аб'ект.

— А ён далёка?

— Кіламетраў тры адсюль.

Аб'ект, што так непакоіў начальніка службы СД, быў размешчаны ў даліне, каля высокай грэблі. Машына спынілася каля высокіх сталёвых варот, быццам урэзаных у высокую каменную сцяну. З абодвух бакоў варот былі два вялікія, бетонныя бункеры. Толькі машына спынілася, з бункера выйшаў насустрач афіцэр. Ён дакладна праверыў дакументы і зноў вярнуўся ў бункер. Вароты аўтаматычна адкрыліся і таксама аўтаматычна закрыліся, калі машына праехала.

— Ну, вось і ўвесь аб'ект, — паказаў Мілер на другую сцяну, што ўзнімалася метраў за трыццаць ад першай. У сцяне былі байніцы, з якіх шчэрылі дулы кулямёты. Пад сцяной быў плот з калючага дроту, за якім прахаджваліся эсэсаўцы.

— Вось гэтае вонкавае кола і ёсць наша дзялянка, — тлумачыў Мілер. — Яна канчаецца на калючым дроце. Далей пачынаецца парафія Штэнгеля. Як бачыце, нічога складанага. Работы будзе вам не шмат.

(Працяг за тыдзень)

